# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 41 (711) 12 кастрычніка 1969 г. ЦАНА 60 гр.

# ШКОЛЬНЫЯ РЭФЛЕКСІІ

У мяне перад вачыма матэрыялы Аддзела асветы і культуры ў Гайнаўцы. Гаворыцца ў іх, м. інш., што, напрыклад, у пачатковай школе ў Трасцянцы 95% вучняў восьмага класа (у мінулым школьным годзе) не разумела структуры партыі і не ведала, у чым заключаецца яе кіруючая роля ў гаспадарчым, палітычным і культурным жыцці краіны. Моладзь пачатковай школы ў Ляневе не ведала дзяржаўных і партыйных асабістасцей. Недахоп актуальных дэкарацый сцверджана ў школе ў Чыжах, Ляневе, Збучы і Храбастоўцы.

На аснове гэтага нельга думаць, што ў гэтых школах настаўнікі незаангажаваныя. На колькі ведаю, многія з іх — члены партыі, выкладчыкі партвучобы, актывісты. Напэўна самі здзівіліся, што іх выхаванкі не ведаюць і не цікавяцца так асноўнымі, а часта і нескладанымі справамі. Дык чаму да гэтага дайшло? А думаю, што так справы маюцца часта і ў іншых школах. Асноўнай прычынай лічу тут недахоп у планаванні пазакласнай і пазашкольнай працы. Планы працы паасобных школьных арганізацый у школах часта не каардынаваныя. Кожнаму вядома, што цяжка толькі пры дапамозе настаўніцкай гутаркі на ўроку навучыць вучняў аб кіруючай ролі партыі, пазнаёміцца з яе структураю. Для гэтага неабходна выкарыстаць пазакласную работу. Вельмі рэдка выкарыстоўваецца ў нашых школах такую форму працы як: згадуй-згадулі ці віктарыны, дзе вучань сам зацікаўлены і збірае самастойна матэрыял. Цяжэй вучню ўяўляць, што там робіцца ў ЦК ці Ваяводскім камітэце партыі, але намнога лягчэй зразумець і ўбачыць, у чым заключаецца праца грамадскага камітэта партыі.

А школьныя арганізацыі. Кожная з іх плануе сваю працу. Настаўнікі — апекуны гэтых жа арганізацый робяць планы, аб якіх ведае найчасцей кіраўнік школы і паасобныя апекуны. Адчуваецца недахоп каардынацыі гэтых планаў. Калі пра план працы данай арганізацыі ведае толькі апякун ды кіраўнік школы, іншыя настаўнікі не могуць іх выкарыстоўваць ў сваёй працы. А трэба ж памятаць, што асноўная колькасць пачатковых школ на вёсцы, гэта школы з шасцю і больш настаўнікамі. З другога боку, рэалізаванне планаў, хаця і скромных, дасць у канцы школьнага года магчымасць падсумавання працы і дазволіць убачыць недахопы, якія можна ліквідаваць у наступным годзе.

Неабходнасць пазалекцыйнай працы на вёсцы вынікае і з таго, што тут меншыя памяшканні, а часта і спалучаныя класы, якія даюць меншую магчымасць працы настаўніка на ўроку.

Гэта факт, што школа не з'яўляецца адзінай установай, якая выхоўвае моладзь. Аб гэтым часта гавораць настаўнікі. Аднак пры гэтым трэба ведаць і мець заўсёды на ўвазе, што школа з'яўляецца ўстановай найважнейшай,

Працяг на стар.4

# БГКТ

## ПАСЯДЖЭННЕ ПРЭЗІДЫУМА ГП

26 верасня Прэзідыум ГП на сваім пасяджэнні абмяркоўваў праблемы беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Адказны член Прэзідыума за асветныя справы дырэктар беларускага ліцэя ў Бельску Мікалай Гайдук на гэту тэму падрыхтаваў даклад, у якім прааналізаваў добрыя бакі і недахопы ў навучанні беларускай мовы і літаратуры ў пачатковых школах і трох ліцэях (бельскім, гайнаўскім і міхалоўскім). Мікола Гайдук інфармаваў, што ў класах 5—8 няма падручнікаў па граматыцы і арфаграфіі да навучання беларускай мовы. Няма добрых падручнікаў да навучання беларускай літаратуры ў ліцэях. Адчуваецца вялікі недахоп праграмнай літаратуры і аўдыёвізуальных матэрыялаў. У сувязі з гэтым М. Гайдук падрыхтаваў ліст да міністра асветы і вышэйшага школьніцтва адносна неабходнасці паездкі дэлегацыі ў Мінск па закупку там некаторых падручнікаў, якія падрыхтаваны на высокім узроўні. Другі ліст да міністра асветы і вышэйшага школьніцтва датычыць неабходнасці паклікання аддзялення беларускай філалогіі ў Вышэйшай настаўніцкай школе ў Беластоку (філіялу Варшаўскага ўніверсітэта).

Прэзідыум прыняло таксама апрацаваны М. Гайдуком змест трэцяга лісту да міністра культуры і мастацтва адносна патрэбы накіроўвання на вучобу ў Тэатральны інстытут у Мінск кожны год па 5—6 здольных у гэтай галіне выпускнікоў з бельскага і гайнаўскага ліцэяў, каб гэтым забяспечыць мастацка-інструктарскую кадру да аматарскага руху ў беларускіх асяроддзях. Прысутныя на гэтай частцы пасяджэння — прадстаўнік Ваяводскага камітэта ПАРП С. Зялінскі і прадстаўнік Ваяводскай рады нарадовай — М. Куц, інспектар асветы з Бельска — М. Татарчук і падінспектар асветы з Гайнаўкі — С. Бароўскі, а таксама члены Прэзідыума ўнеслі некаторыя папраўкі да зместу гэтых лістаў. Наступным пунктам пасяджэння былі кадравыя справы ГП. Прадставіў іх сакратар ГП Янка Зенюк. Прэзідыум прыняў у гэтых справах патрэбныя пастановы. Пастаноўлена таксама правесці рэарганізацыю эстрады «Лявоніха». Ад новага года будзе яна таксама дапамагаць у працы аматарскім калектывам. Апрача таго Прэзідыум рашыў, каб пачынаючы ад новага года ў Беластоцкім павеце быў адзін аддзел БГКТ з сядзібай у Беластоку, (зараз два аддзелы ў Гарадку і Міхалове).

## У САКОЛЦЫ

20 верасня на павестцы дня Прэзідыума Сакольскага аддзела БГКТ асноўнай справай была праблема навучання беларускай мовы ў пачатковых школах. Запрошаны на пасяджэнне падінспектар аддзела асветы — К. Марчук выступіла з інфармацыяй на гэтую тэму, з якой вынікае, што беларуская мова навучаецца ў 12 школах, а вучыцца яе 325 дзяцей.

Прэзідыум аддзела сцвердзіў, што наступае з кожным годам зніжэнне колькасці дзяцей, якія вывучаюць родную мову. Неабходна прадухіляць гэтую з'яву праз большую спецыялістычную дапамогу выкладчыкам беларускай мовы, а таксама праз гутаркі з бацькамі адносна патрэбы ведання роднай мовы і літаратуры. У пасяджэнні ўзяў удзел таксама кіраўнік унутраных спраў Паватовай рады нарадовай — Л. Тамашэўскі. (мх)



# БРАТЫ-СУСЕДЗІ

# КАРЫСНЫЯ СУСТРЭЧЫ

Па запрашэнню Ваяводскага камітэта ПАРП і Прэзідыума ВРН у Беластоку прабывала на Беласточчыне партыйна-савецкая дэлегацыя Гродзенскай вобласці.

Звярнуліся мы да старшыні дэлегацыі, **сакратара Абласнога камітэта КПБ Аляксандра Ульяновіча** з просьбай, каб падзяліўся ўражаннямі дэлегацыі з пабыўкі на Беласточчыне.

**— Нашых чытачоў цікавіць тое, чым асабліва цікавілася Ваша дэлегацыя ў час пабыўкі на Беласточчыне.**

— Нас асабліва цікавілі пытанні звязаныя з падрыхтоўчай працай Беластоцкай партыйнай арганізацыі да 100 гадавіны нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна. Мы цікавіліся таксама пытаннямі партыйнага кіраўніцтва, масавымі арганізацыямі, а асабліва ТППР і БГКТ. Паколькі наша дэлегацыя была партыйна-савецкай, мы цікавіліся таксама працай дзяржаўных, спулдзельчых і гандлёвых устаноў ваяводства.

У сувязі з гэтым наша дэлегацыя адбыла сустрэчы ў Ваяводскім камітэце ПАРП. Члены кіраўніцтва Ваяводскага камітэта ПАРП і кіраўнікі аддзелаў шырока паінфармавалі нас аб формах партыйнага кіраўніцтва масавымі арганізацыямі і культурна-асветнай працай. Дэлегацыя наша пабывала ў Прэзідыуме ВРН, наведала баваўняны камбінат «Фасты», пабывала ў паветах і ГРН, наведала дамы культуры, школы.

**— З гэтага, што Вы сказалі, вынікае, што праграма пабыўкі дэлегацыі была абшырная. Якія ўражанні вывозіць Ваша дэлегацыя ў Гродна?**

— Так, праграма абшырная, але дзякуючы дасканалай яе распрацоўцы мы змаглі вельмі шырока пазнаёміцца з цікавячымі нас справамі. Усюды, дзе мы пабывалі, таварышы паказвалі многа мерапрыемстваў, якія праводзіць насельніцтва пад кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта партыі. Напрыклад, нам вельмі спадабаліся адносіны да культурна-асветнай працы ў Гайнаўскім дрэваапрацоўчым прадпрыемстве, дзе вядзецца праца не толькі з узрослымі, але і дзяцьмі. У тэкстыльным камбінаце «Фасты» між іншым спадабалася культура вытворчасці. Дырэкцыя камбіната прымяняе тут новыя навуковыя меры вытворчасці і кіраўніцтва. Таварышы з Бельска расказвалі нам аб арганізацыйна-партыйнай працы. Тут паказалі нам таксама працу сельгасгуртқоў і расказалі аб сельгаспрацах. У Бельску і іншых мясцовасцях мы бачылі шырокую культурна-асветную працу, якая праводзіцца ў цэнтры «Практычная гаспадыня». Асабліва гэта добрая форма працы сярод жанчын. Наша дэлегацыя пабывала таксама ў Варшаве. Мы ўзрушаны вялікім і прыгожым будаўніцтвам вашай сталіцы.

**— Таварыш сакратар, Вы пабывалі і гутарылі непасрэдна ў Галоўным праўленні БГКТ, якія адсюль уражанні Вашай дэлегацыі?**

— Хачу паінфармаваць, што наша дэлегацыя ўпершыню ў так шырокім маштабе цікавілася працай Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы. Наша дэлегацыя шырока пазнаёмілася са структурай БГКТ. Таварышы з Галоўнага праўлення вельмі шырока расказвалі нам аб беларускім школьніцтве на Беласточчыне, аб мастацкім аматарскім руху, аб выдавецкай дзейнасці БГКТ, аб літаратурным асяроддзі беларускіх пісьменнікаў у Польшчы. Я і шмат іншых грамадзян Гродзеншчыны з'яўляемся чытачамі «Нівы», а ў сувязі з гэтым праца Беларускага таварыства нам не чужая, але тут,

Працяг на стар.4



**12** кастрычніка Дзень войска. На нашым здымку эпізод з манеўраў «Одра—Ныса 69»: лясная паляна, якая сталася месцам канцэнтрацыі танкаў падраздзялення паручніка І. Матэюка.

Фота Цаф—Ваф — Сындаман

# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ПАСЛАНЦЫ ПОЛЬШЧЫ Ў МАСКВЕ

З 1 па 3 кастрычніка 1969 года ў Савецкім Саюзе знаходзілася з сяброўскім візітам партыйна - ўрадавая дэлегацыя Польшчы з Уладзіславам Гамулкам і Юзэфам Цыранкевічам на чале.

У час візіту, які прайшоў у сардэчнай і брацкай атмасферы, партыйна-ўрадавая дэлегацыя ПНР абмеркавала з кіраўніцтвам КПСС і ўрадам СССР праблемы далейшага развіцця і паглыблення палітычных і эканамічных суадносін спалучаючых абедзве партыі, абодва ўрады і народы, а таксама правяла абмен думкамі на тэму актуальнай міжнароднай абстаноўкі. Гэта абазначае, што размовы ахапілі ўсе асноўныя справы звязаныя з двухбаковымі суадносінамі Польшчы і Савецкага Саюза, а таксама ўсе тыя праблемы, якія датычаць далейшай барацьбы забеспячэння міру ў Еўропе і ва ўсім свеце.

### ГДР 20 ГОД

У Германскай Дэмакратычнай Рэспубліцы пачаліся ўрачыстасці звязаныя з 20-ай гадавінай утварэння Рэспублікі, якая прыпадае 7 кастрычніка.

У сувязі з гэтым у цэнтры Берліна пераказана ў карыстанне тэлевізійную вежу, другую па велічыні ў Еўропе. Вежа дае магчымасць надавання каляровай тэлевізіі.

Старшыня Рады Дзяржавы ГДР, І сакратар ЦК СЭД выступаючы з прамовай на ўрачыстасці звязанай з пераказаннем вежы, звярнуўся з заклікам да ўсіх краін свету, каб навязалі яны нармальныя дыпламатычныя суадносіны з ГДР.

### ПАСЛЯ ВЫБАРАЎ У ФРГ

Пасля 20 год кіравання Федэратыўнай Рэспублікай Германіі хадэцыя першы раз пераходзіць да апазіцыі. Штопраўда, фармальна гэта будзе вырашана 20 або 21 кастрычніка (калі адбудзецца галасаванне ў Бундэстагу), але ўжо зараз вядома, што сацыял-дэмакраты В. Брандта і т. зв. вольныя дэмакраты В. Шэля створаць малую кааліцыю. Малую таму, што ў парламенце будуць перавышаць апазіцыю толькі некалькімі галасамі.

У сувязі з такой сітуацыяй засталіся зусім непадрыхтаванымі хрысціянскія дэмакраты да ролі апазіцыі. Ідуць шматлікія намаганні хадэкаў, каб перакупіць дэпутаваных вольных дэмакратаў.

Так ці інакш канцлерам ФРГ павінен астацца В. Брандт, а віцэ-канцлерам і міністрам замежных спраў В. Шэль.

Хто такі В. Брандт? Не заўсёды меў ён такое прозвішча. У дзяцінстве называўся ён Герберт Фром і быў сынам прадаўшчыцы, а выхоўваў яго дзед па прафесіі — шафёр. Іменна дзед і наблізіў яго да сацыял-дэмакратаў. Перад гітлераўскім тэрорам уцякае Брандт у Нарвегію, а III Рэйх адбірае яму нямецкае трамадзянства. Як В. Брандт накладае ён нарвежскі мундзір і змагаецца з гітлераўцамі. Пасля вайны вяртаецца на айчыну, дзе 2 разы быў выбраны бургамістрам Заходняга Берліна, 2 разы сягаў па становішча канцлера, а ад 1966 г. быў віцэ-канцлерам у кааліцыйным урадзе з хадэкамі.

А. К.



## БССР

### ПЕРСПЕКТЫВАМ

Выкананню заданняў пяцігадовага плана і перспектывам далейшага развіцця Беларускай Рэспублікі была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася 29 верасня ў мінскім клубе журналістаў. Выступіў Старшыня Савета Міністраў Беларускай ССР Ц. Кісялёў.

Нацыянальны даход Беларусі за тры гады пяцігодкі павялічыўся на 32 працэнты пры плане 28,1 працэнта. Сярэдне — гадавыя тэмпы прамысловай вытворчасці склалі 13 працэнтаў супраць 12 працэнтаў, намечаных дырэктывамі па пяцігадоваму плану. Звыш заданняў пяцігодкі за гэты перыяд выпушчана прамысловай прадукцыі на 800 мільёнаў рублёў, у тым ліку тавараў народнага спажывання на 370 мільёнаў рублёў. Паспяхова выконваецца план прамысловай вытворчасці і рэалізацыі прадукцыі ў гэтым годзе.

Павысіўся тэхнічны ўзровень галін народнай гаспадаркі. Больш высокімі тэмпамі, чым прадугледжвалася планам, расла прадукцыйнасць працы ў прамысловасці.

Кісялёў паведаміў, што ў наступнай пяцігодцы будзе разгледжана справа пабудовы атамнай электрастанцыі ў Беларусі.

### БЕЛАРУСКІХ

На маскоўскай Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі арганізавана выстаўку-агляд прадметаў народнага спажывання і перадавых метадаў бытавога абслугоўвання насельніцтва, у якой прымаюць удзел прадпрыемствы і арганізацыі сямі беларускіх міністэрстваў. Яны пакажуць лепшыя свае вырабы.

### ПРАФСАЮЗАЎ

Адбыўся VI пленум Беларускага рэспубліканскага савета прафсаюзаў. Яго ўдзельнікі абмеркавалі пытанні аб ходзе выканання сацыялістычных абавязацельстваў, прынятых калектывамі прадпрыемстваў і арганізацыяў рэспублікі ў гонар 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, і аб мерах паляпшэння арганізатарскай работы прафсаюзных арганізацый Беларускай ССР па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню.

### ДАЎНЯЯ

Даўняя дружба існуе паміж калектывам выкладчыкаў і навучэнцаў Гомельскай школы машыністаў лакаматываў і хлебаробамі калгаса «Авангард» Буда-Кашалёўскага раёна. Нядаўна група навучэнцаў на працягу шасці дзён дапамагала калгаснікам у садах, выконвала іншыя сельскагаспадарчыя работы.

### ПОЛАЦКІ

У Полацку пры вуліцы Леніна знаходзіцца будынак, у якім жыў і працаваў вядомы беларускі мысліцель і педагог, пісьменнік і перакладчык Сімеон Полацкі. Яго першае імя і прозвішча Самуіл Пятроўскі-Сітніановіч. Манашаства прыняў у 1656 годзе ў Полацкім Багаяўленскім манастыры.

Сімеон Полацкі ўпершыню ўвёў навучанне беларускай мовы ў прыманастырскай школе. Пры гэтай жа школе існаваў тэатр, якім ён кіраваў, а таксама пісаў п'есы і рэжысіраваў іх.

Апошнія годы жыцця С. Полацкі правёў у Маскве, дзе прымаў удзел у выхаванні царэвіча Пятра, будучага імператара Пятра І Вялікага.

(СЯ)



## ПОЛЬШЧА

### КІРМАШ

У Познані адбыўся XXIV агульнапольскі кірмаш пад названнем «Восень 69». Прыняло ў ім удзел 12 тысяч экспанентаў з усяе краіны, выстаўляючы тавар на агульную вартасць 41 мільярда злотых. Падчас кірмашу падпісана звыш 60 тысяч дагавораў на І паўгоддзе 1970 года. Іх вартасць — звыш 40 мільярдаў злотых.

### АШЧАДНАСЦЬ

«Бюджэт на 1970 год павінен быць бюджэтам ашчадным» — сцвердзіў у інтэрв'ю міністр фінансаў І. Трэдота. Для ўраўнаважання і ўмацавання фінансавай палітыкі дзяржавы пастаноўлена між іншым абмежаваць сродкі на службовыя камандзіроўкі, бюровую мэблю і г.д.

### МЭБЛЯ

Агульная вартасць мэблі, якая ў наступным годзе знойдзецца ў продажу, будзе на мільярд злотых большай, чымсьці ў гэтым годзе. У суме гандаль мае намер прадаць мэблі на 11,4 мільярдаў злотых, гэта значыць, у 10 разоў больш, чымсьці 10 гадоў таму назад. Найбольшай папулярнасцю цешыцца сегментавая мэбля.

### РУКА

Чатыры тыдні таму назад у час працы ў металургічным прадпрыемстве ў Радомю 38-гадовая Юльянна Б. мела няшчасны выпадак, падчас якога абарвала ёй руку. Перавезена яе ў бальніцу. Хірург доктар С. Кутыла вырашыў прышыць адарваную руку. Аперацыя закончылася паспяхова. Зараз хворая можа ўжо варушыць пальцамі прышытай рукі.

### КРЫШТАЛІ

Польскія крышталі прадаем у 90 краін свету. У мінулым годзе прададзена 522 тоны крышталяў. Гадовы даход з гэтага экспарту — 100 мільёнаў злотых.

### ДАХОДЫ

Як паказалі падрабязныя падлікі, сем'і людзей адукаваных у нашай краіне колькасна меншыя, чымсьці сем'і людзей неадукаваных, працуе ў іх пераважна большая колькасць асоб і індывідуальныя заработкі вышэйшыя. У сувязі з тым пры невялікай нават розніцы ў індывідуальных заработках існуюць у нашай краіне вялікія розніцы ў суме даходаў прыпадаючых на аднаго члена сям'і: у найбольш багатых на аднаго члена сям'і выпадае 34 тысячы злотых у год, у найбольш бедных — каля 6 тысяч злотых у год.

### МАСЛА

З прычыны летняй пасухі ў месяцы жніўні скупка малака асягнула толькі 88 працэнтаў планавага стану. У сувязі з тым зараз на рынку адчуваецца недахоп масла.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### ШКОЛА

У мясцовасці Нэта-Фольварк у Аўгустоўскім павеце адкрыта новазбудаваную школу, якой прысвоена імя Тадэвуша Касцюшкі. Пабудова гэтага прыгожага школьнага будынка каштавала 570 тысяч злотых. У пабудове дапамагала мясцовае насельніцтва і войска. Вартасць грамадскага чыну аблічваецца на суму ў 400 тысяч зл. Ва ўрачыстасцях адкрыцця школы прыняў удзел генерал З. Гушча.

### НАРАДА

У Беластоку адбылася нарада актыву сельскагаспадарчых дзеячаў. Нарадай кіраваў І сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП А. Лашэвіч. З дакладам аб актуальным стане сельскай гаспадаркі Беластоцкага ваяводства і аб яе заданнях у будучай пяцігодцы выступіў сакратар Ваяводскага камітэта партыі па сельскагаспадарчых справах С. Кудла. Нарада сталася важнай падзеяй у гаспадарчым жыцці Беласточчыны. Яна вызначыла канкрэтныя намаганні, каб узняць на вышэйшы ўзровень сельскую гаспадарку.

### СВЯТА МІЛІЦЫІ

Надалей адбываюцца шматлікія ўрачыстасці з нагоды 25 гадавіны існавання органаў грамадзянскай міліцыі і бяспекі. Камендатуры міліцыі — гарадская ў Беластоку і павятовая ў Замброве — атрымалі сцягі, якія ўфундавала ім грамадскасць. На сустрэчы беластоцкіх журналістаў з кіраўніцтвам Ваяводскай камендатуры МО ў Беластоку высока ацэнена супрацоўніцтва міліцыі і беластоцкага друку. Журналісты атрымалі адзнакі і пісьмовыя падзякі. Сярод іх галоўны рэдактар «Нівы» Г. Валкавыцкі. Апрача гэтага праводзіліся сустрэчы з заслужанымі працаўнікамі МО, а ў міліцэйскім клубе ў Беластоку адкрыта выстаўку: «25 год грамадзянскай міліцыі і службы бяспекі».

### СТУДЭНТЫ...

...усіх трох беластоцкіх вышэйшых навучальных устаноў урачыста пачалі новы навучальны год. На адкрыцці акадэміцкага года ў Вышэйшай Інжынерскай школе прысутнічала Яўгенія Красоўская, якая з'яўляецца паслом Беласточчыны ў сейм і намеснікам міністра асветы і вышэйшага школьніцтва. Пры нагодзе варта адзначыць, што апрача трох пастаянных вышэйшых навучальных устаноў, на Беласточчыне дзейнічаюць яшчэ два пастаянныя кансультацыйныя пункты. Адзін у Беластоку, якім апякуецца Галоўная школа планавання і статыстыкі ў Варшаве. Дае ён магчымасць навукі для амаль 400 студэнтаў. Другі пункт знаходзіцца ў Элку і апякуецца ім Вышэйшая сельскагаспадарчая школа ў Ольштыне. У Элцкім кансультацыйным пункце вучыцца 165 студэнтаў.

### ДАПАМОГА ПГР-АМ

Як штогод школьная моладзь дапамагае беластоцкім ПГР-ам у капанні бульбы. У гэтым годзе ў гэтай акцыі прымае ўдзел звыш 10 тысяч дзяўчат і хлопцаў.

(вр)




**Niedziela, 12.X.**

8.50 Program dnia. 8.55 TV Kurs Rolniczy: ,,Jesienne zabiegi agrotechniczne''. 9.30 ,,Przypominamy, radzimy''. 9.40 ,,Akcja Liść Dębu'' — film TVP (,,Stawka większa niż życie''). 10.35 ,,Melodie na dzień dobry''. 11.00 ,,Alexanderplatz'' (Berlin). 11.35 Dziennik. 11.50 ,,Las ułożył tę piosenkę''. 12.25 ,,Przemiany''. 13.00 Finał indywidualnych Mistrzostw Polski na żużlu (Rybnik). 13.55 Krakowski Teatr Baśni: A. Swirszczyńska — ,,O pięknej Dorotce''. 15.00 Międzypaństw. mecz piłki nożnej Luxemburg — Polska. 16.45 ,,Piórkiem i węglem''. 17.05 PKF. 17.15 ,,Spotkanie z pisarzem'' — Tadeusz Różewicz. 17.55 Scena Monodram: St. Grochowiak — ,,Narzeczone''. 18.35 ,,Tele-Echo''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Krzyż Walecznych'' — film fab. pol. 21.30 Film. 22.00 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek, 13.X.**

14.25 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci. ,,Zwierzyniec''. 17.35 ,,Echo stadionu''. 17.55 ,,Złota Chochłoma'' — film radz. 18.10 ,,Sylwetki X Muzy'' — Kim Novak. 18.40 ,,Eureka''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr. TV: H. Boguszewska — ,,Całe życie Sabiny''. 21.20 ,,Panorama Literacka''. 21.50 Program filmowy. 22.15 Dziennik.

**Wtorek 14.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. II lic.) Język polski — W. Szekspir — ,,Hamlet''. 9.40 ,,Karin, córka Monsa'' — film fab. szwedz. 11.15 Przerwa. 12.00 ,,Wybieramy zawód''. 12.20 Przerwa. 12 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Określenie wartości pokarmowej pasz''. 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 ,,Z trąbką w herbie'' — film pol. 17.05 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.00 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 Kino Interesujących Filmów: ,,Karin, córka Monsa'' — film fab. szwedz. 21.35 ,,Refleksje''. 22.05 Dziennik..

**Środa, 15.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — ,,Przyrządy optyczne''. 10.25 ,,Yanco'' — film fab. meks. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — ,,Ropa naftowa''. 12.25 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Sekrety Bolka i Lolka''. 17.25 Magazyn ITP. 17.35 ,,Na morskich szlakach''. 18.00 TV Kurier Warszawski. 18.15 ,,Wyprawy'' — film. 18.45 ,,Perspektywy techniki''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Giełda piosenki''. 20.40 ,,Światowid''. 21.10 PKF. 21.20 Estrada Literacka: H. Kruger — ,,W labiryncie winy''. 22.20 Dziennik.

**Czwartek, 16.X.**

8.15 ,,Matematyka w szkole'': ,,Skale funkcyjne''. 8.45 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. V) Język polski — ,,Maria Konopnicka''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — ,,Dzieło Wita Stwosza''. 11.25 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. V) Historia — ,,Złoty wiek Aten''. 12.25 Przerwa. 14.25 i 22.30 Politechnika TV I roku. Geometria wykreślna. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 17.45 TV Kurier Białostocki. 18.05 ,,Ochrona przyrody i łowiectwo''. 18.45 ,,Dialogi historyczne''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Przypominamy, radzimy''. 20.05 ,,Jazz Jamboree 1969''. 21.00 ,,Alfred Hitchcock przedstawia'' — film. 21.50 Karykatury Mirosława Pokory. 22.10 Dziennik.

**Piątek, 17.X.**

9.40 ,,Inne Włochy'' — film dok. wł. 10.55 Dla szkół: (kl. VII) Wychowanie obywatelskie — ,,Nasza fabryka''. 11.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — ,,Telekomunikacja''. 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.45 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Opowieści ze świata zwierząt''. 17.15 ,,Duch na Wyspie Mnicha'' — film. 17.30 ,,Zrób to sam''. 17.45 ,,Nie tylko dla pań''. 18.05 TV Kurier Mazowiecki. 18.25 ,,Instytut Żywienia''. 19.00 ,,Przepraszamy za usterki'' — tygodnik aktualności satyrycznych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Inne Włochy'' — film dok. wł. 21.15 ,,Czwarta zmiana''. 21.45 ,,Dean Martin przedstawia'' — film. 22.25 Dziennik.

**Sobota, 18.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — ,,Kanada''. 10.25 ,,Intrygantki'' — film fab. CSRS. 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Zoologia — ,Pierwotniaki''. 12.25 Przerwa. 14.10 Program dnia. 14.15 TV Kurs Rolniczy: ,,Racjonalna gospodarka obornikiem''. 14.50 Program tygodnia: 15.10 Program sportowy. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Widzialni i niewidzialni''. 17.30 ,,Błękitny ognik''. 18.45 ,Pegaz''. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 ,,Zielona gęś'' K. I. Gałczyńskiego. 21.05 Dziennik. Wiadomości sportowe. 21.25 ,,Intrygantki'' — film fab. CSRS. 22.50 ,,Sezam muzyczny'' — montaż operetki J. Straussa ,,Wesoła wojna''.




**Piątek, 10 października**

8.00 Nowiny. 8.15 ,,Cuda przyrody''. 8.30 ,,Świeci gwiazdka''. 14.55 Program dnia. 15.00 Nowiny. 15.15 Dla uczniów. 15.45 ,,Panorama nowin''. 16.15 Program z Uljanowska. 17.00 ,,Serce matki''. Film fab. 18.20 ,,Sztafeta nowin''. 19.25 Program rozrywkowy. 20.15 Artystka Ludowa BSRR R. Koszelnikowa. 21.25 ,,Poznajcie się''. Koncert. 21.45 Nowiny.

**Sobota, 11 października**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 ,,Życie tańca''. 9.15 Przegląd międzynarodowy. 9.35 ,,Szkatułka muzyczna''. 9.50 ,,Piłka nad wodą''. 10.15 ,,Zdrowie''. 11.00 TV uniwersytet ludowy. 12.30 ,,Śladami ojców — bohaterów''. 13.10 ,,Białe i czarne''. 13.40 W eterze ,,Młodość''. 14.40 Nowiny. 15.00 ,,Klub wiejski''. 16.00 TV barwna. 17.00 ,,Klub wesołych''. 19.00 ,,Leninizm — sztandarem naszej epoki''. 19.30 ,,Nasi goście''. 20.05 ,,Dziewczyna z koszem''. Film fab. 21.25 Koncert. 22.25 Nowiny.

**Niedziela, 12 października**

8.00 ,,Kiosk muzyczny''. 8.30 ,,Zdrowie''. 9.00 ,,Maryte''. Film fab. 10.30 Koncert. 11.00 Dla żołnierzy. 11.30 Centrum Berlina. 12.00 ,,Godzina wiejska''. 13.30 K. Simonow ,,Dym Ojczyzny''. Spektakl teatralny. 16.00 Film animowany dla dzieci. 16.20 Przegląd klubów wiejskich. 17.00 TV barwna. 18.30 ,,Siedem dni''. 19.15 Śpiewa Razi Armen. 19.30 ,,Wiryneja''. Film fab. 21.15 ,,Tydzień sportowy''.

 

## ТЭОРЫЯ ЛІТАРАТУРЫ

Паважаныя Настаўнікі і Чытачы! Распачынаем пастаянны друк матэрыялаў па тэорыі літаратуры. Друкуем іх з думкай перш за ўсё пра настаўнікаў і вучняў пачатковых школ.

Друкаваныя намі матэрыялы будуць магчыма максімальна павязанымі з праграмай навучання беларускай мовы ў V—VIII класах. З тэхнічных прычын мы не можам падаваць тэм на паасобныя класы і таму, напрыклад, тэма: «Кампазіцыя твора», якая выступае ад пятага па восьмы клас, будзе паказана агульна так, каб мог скарыстаць настаўнік VIII класа і быў задаволены настаўнік малодшых класаў. Тэматыка, якую рэкамендуем настаўнікам, у праграме называецца «Omówienie lektury».

Напамінаем, што паасобныя тэмы апрацавана на падставе «Тэорыя літаратуры ў школе» М. А. Лазарука. Паколькі гэтых кніжак у нас вельмі мала, просім настаўнікаў, каб рабілі выразкі нашых публікацый або рабілі сшыўку «Нівы». Ахвотна прыймаем вашы пажаданні.

* * *

# Літаратура як від мастацтва

Гісторыя павучае, што людзі ў даўніх часах не задавольваліся тым, што давала ім прырода, яны імкнуліся ўздзейнічаць на яе — рабілі зброю для палявання, прылады для працы, будавалі сабе жыллё. У працэсе працы з'явілася і адчуванне прыгожага, імкненне рабіць розныя рэчы такімі, каб яны выклікалі задавальненне. З часам узнікла галіна чалавечай дзейнасці — мастацкая творчасць. Чалавек навучыўся ўзнаўляць у форме фігур, гукаў, рухаў, ліній і фарбаў свае паводзіны, учынкі, думкі, перажыванні.

**Мастацтва** — гэта асобая галіна духоўнай дзейнасці чалавека, вобразнае асваенне свету. Людзі, якія займаюцца мастацкай дзейнасцю, стварэннем карцін, музыкі, скульптур, літаратурных твораў, называюцца **мастакамі, кампазітарамі, скульптарамі, пісьменнікамі.**

Жывапіс, музыка, скульптура, тэатр, кіно, літаратура — **віды мастацтва.** Кожны з відаў адрозніваецца сваімі сродкамі паказу жыцця. Музыка карыстаецца гукамі і мелодыямі, жывапіс — лініямі і фарбамі. **Літаратура** — мастацтва слова. Для стварэння карцін, вобразаў літаратура выкарыстоўвае сродкі мовы. Пры дапамозе слова яна можа дасканала перадаваць думкі людзей, фарбы, адцені прыроды. Літаратура ад некаторых іншых відаў мастацтва адрозніваецца тым, што яна адлюстроўвае жыццё ў руху, у зменлівасці. Яна можа перадаць не толькі які-небудзь адзін момант жыцця, як скульптура, але паказаць розныя ўчынкі чалавека, думкі, перажыванні, змены ў яго паводзінах, настроях на працягу доўгага часу. Літаратура ў параўнанні з іншымі відамі мастацтва валодае найбольшымі магчымасцямі ў вобразным асваенні жыцця.

У мастацкім творы кожны вобраз заключае ў сабе пэўную думку. Пісьменнікі ствараюць вобразы людзей не проста для таго, каб пазнаёміць чытача з якім-небудзь чалавекам, а каб раскрыць заканамернасці жыцця, каб нашы ўяўленні аб людзях сталі шырэйшыя, багацейшыя.

Прачытаўшы, напрыклад, аповесць М. Лынькова «Міколка-паравоз» (V клас), мы даведаліся аб тым, як змагаўся працоўны народ у часы рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Мы палюбілі Міколку, яго бацьку, дзеда, партызан за іх справядлівасць, геройства. Іх паводзіны, учынкі сведчаць аб тым, як любяць савецкую ўладу працоўныя людзі.

Літаратура, як і мастацтва наогул, з'яўляецца адной з форм **грамадскай свядомасці,** формай мастацкага пазнання свету. А гэта азначае, што яна ў карцінах, вобразах нясе веды аб жыцці і разам з тым дае ацэнку розным з'явам, адказвае на пытанне «што такое добра і што такое дрэнна?», вучыць людзей адрозніваць праўду ад няпраўды, любіць прыгожае, добрае і ненавідзіць злое, несправядлівае.

Мастацкая літаратура мае вялікае **грамадскае значэнне.** Яна з'яўляецца зброяй грамадскай барацьбы. Для прыкладу такія пісьменнікі як Ф. Багушэвіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Багдановіч у дакастрычніцкі перыяд у сваіх творах мужна абаранялі інтарэсы працоўнага сялянства. Прагрэсіўная дакастрычніцкая літаратура ўздымала народ на рэвалюцыйнае змаганне. Магутнай зброяй за шчасце працоўных людзей з'яўляецца сучасная літаратура.

**Народнасць** падразумявае не толькі высокую ідэйнасць, але і высокае майстэрства, дасканаласць мастацкай формы твораў, іх даступнасць для народа. Неабходна, каб твор не толькі ставіў важнае пытанне, але і быў цікавым, мастацкім, каб яго хацелася чытаць. А з другога боку, трэба, каб ён быў зразумелы для чытачоў або гледачоў.

У наступным адрэзку тэма: Аналіз мастацкага твора: тэма твора і ідэя твора. (А-К)

## Падпісчыкі «НІВЫ» ў БССР!

**Прыпамінаем вам, дарагія нашы сябры, што ўжо пачалася падпіска на газеты і часопісы на 1970 год. Не забудзьце тады выпісаць таксама і «Ніву». Дзякуем.**

**З жыцця нашых ліцэяў**

## Тэма: заражанае месца

**Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім. На практычных занятках абароннай падрыхтоўкі. Тэма лекцыі: «Пераадольванне заражанага месца».**

**Фота Цаф — Сянько**









# Культурны сезон распачаўся

Новы культурны год у Беластоцкім ваяводстве пачаўся. У гэтым годзе ён звязаны з юбілеем 25-цігоддзя ПНР. Таму ў вялікім скарачэнні прыпомнім сабе дасягненні культуры за гэты час на нашай зямлі.

Першым нашым вялікім дасягненнем з'яўляецца м а с а в а с ц ь культуры. Усё для ўсіх, не для адзінак, а для ўсіх. Культура сышла ў вёскі, у гурткі, у хаты. Што гаварыць? Ведаем, што на парозе 25-годдзя не было на вёсцы ні радыё, ні тэлевізара, ні машын, ні кніжак, ні агульнай асветы. Быў толькі замкнуты свет, спадчына цемнаты і ўбогасці, былі людзі, якія пісаць і чытаць не ўмелі. Варта прыпомніць усё гэта цяпер.

Другое вялікае дасягненне — гэта беластоцкія д з я р ж а ў н ы я культурныя ўстановы, якіх не было на Беласточчыне ніколі раней, а якія выраслі і служаць цяпер усім. Гэта тэатр, аркестр, музей, бібліятэкі і г.д.

Трэцяе вялікае дасягненне — гэта грамадскі рух неспакойных і творчых людзей. Ён развіваецца на Беласточчыне асабліва ў апошнія гады. Колькі ў нас паўстала, арганізавалася ўжо і арганізуецца пастаянна грамадскіх і навуковых таварыстваў і любіцельскіх гурткоў. Таварыствы такія робяць вялікую работу ў разбуджванні зацікаўленняў народнай культурай, археалогіяй, музеямі, збіральніцтвам розных памятак і т.д. З важнейшых: Беластоцкае навуковае таварыства, Беластоцкае музычнае таварыства, фатаграфічнае, нацыянальныя таварыствы, з іх вельмі актыўнае на Беласточчыне Беларускае таварыства. Развіццё гэтага руху ў Беластоцкім ваяводстве захапляе іншыя ваяводствы. Мы іх у неспакойных пошуках выпярэджваем, мы шукаем нясныінна новых форм і новых ведаў.

**Новыя напрамкі ў новым культурным годзе.**

Яны будуць канцэнтравацца вакол упарадкавання розных спраў звязаных з культурнай працай. Вялікая гэта праца, але неабходная. Многа яшчэ непаладкаў, балагану і многіх гаспадароў мае культура. Трэба ўсё ўладзіць, трэба ведаць, што маем і чаго патрабаваць, трэба ведаць, чаго хацець. Будзе праведзены дакладны ўлік клубаў, святліц, гурткоў і таго, што яны маюць.

Кадры. Наракання на іх вельмі многа. А справа зводзіцца да таго, што і культурныя працаўнікі павінны вучыцца і здабываць кваліфікацыі. Ваяводства мае магчымасці навучаць розных людзей розным спецыяльнасцям культурнай працы. Будуць праводзіцца курсы спецыялістаў, і ад людзей будзе патрабавацца ўмеласці. Дасць гэта ім права да большых заробкаў.

На Беласточчыне па ўласнай ініцыятыве ўжо пару год таму пачаў змяняцца профіль павятовых дамоў культуры. Мала-памалу дамы культуры перасталі быць замкнутымі прыбыткамі культуры, а выходзілі на шырокую працу з вёскай. Нашу ініцыятыву па ўказанні Міністэрства культуры ў гэтым годзе прымае ўся краіна. Галоўная ідэя навасці такая: ПДК з'яўляюцца інструкцыйнымі параднямі для гурткоў, для клубаў, для святліц. (вл)




**А. Кулакоўскі, — Твой шлях перад табою.** Аповесці і апавяданні з серыі «Школьная бібліятэка», цана 3,10 зл.

**Т. Хадкевіч, — Дзвіна пайшла.** З серыі «Школьная бібліятэка», цана 3.30 зл.

**А. Лойка, — Сустрэчы з днём сённяшнім.** Цана 3,90 зл.

**Н. Гілевіч, — Перазовы.** Цана 5,00 зл.

**А. Якімовіч, — Выбраныя творы.** Том 1, цана 10,00 зл, том 2, цана 9,70 зл.

**Я. Маўр — Палескія рабінзоны.** З серыі «Школьная бібліятэка», цана 3,80 зл.

**М. Машара, — Сонца за кратамі.** Выд. «Беларусь» 1968 г. цана 9.40 зл. Гэта другая кніжка з задуманай аўтарам трылогіі пра жыццё працоўных Заходняй Беларусі пад пятой санацыйнай Польшчы ў дваццатыя гады. Першы раман «Крэсы змагаюцца» выйшаў у свет у 1966 годзе.

**Ул. Дубоўка, — Казкі.** З серыі «Школьная бібліятэка», цана 5,70 зл.

**Я. Колас, — На ростанях.** Трылогія, Выд. «Беларусь» 1968 г., цана 13,10 зл.

**П. П. Ахрыменка, М. Р. Ларчанка, — Старажытная беларуская літаратура.** Выд. «Вышэйшая школа» 1968 г., цана 4,60 зл.

**К. Буйла, — Выбранае.** Выд. «Беларусь» 1968 г., цана 9,90 зл.

**А. Міцкевіч, — «Зямля навагрудская краю мой родны...»** Выд. «Беларусь», 1969 г., цана 7,60 зл.

**Я. Колас — Раніца ў нядзельку.** Вершы, апавяданні, казкі. 1969 г., цана 8,20 зл.

**І. Шамякін, — Вячэрні сеанс.** Выд. «Беларусь», 1968 г., цана 4,60 зл. У кнігу ўвайшлі: аповесць «Ах, Міхаліна, Міхаліна», — пра жыццё, працу і каханне сельскай настаўніцы, кінааповесць «Не той гонар» і апавяданні: «Вячэрні сеанс», «Аксана», «Дубы», «Непрыгожая», «Дзеці настаўніцы» і інш.

Напамінаем, што вышэй успомненыя кніжкі можна купіць у кнігарні «Dom Książki» Białystok, ul. Kilińskiego 10, асабіста або пры дапамозе пісьмовага заказу за паштовым залікам. Кніжкі гэтыя можна таксама заказаць у сваёй кнігарні, якая павінна іх запатрабаваць з Беластока ці Варшавы.

Усе водзывы і пажаданні кіруйце ў нашу рэдакцыю. (ак)



 

Пачатак на стар. 1

# Карысныя сустрэчы

на месцы мы папоўнілі свае веды аб ролі і заданнях БГКТ, аб карыснай працы, якую яно праводзіць сярод беларускай нацыянальнай меншасці. Той факт, што большасць членаў ГП складаюць члены Польскай аб'яднанай рабочай партыі, поўнасцю запэўнівае партыйнае кіраўніцтва гэтай арганізацыі. Працай БГКТ мы цікавіліся таксама непасрэдна ў Бельскім і Гайнаўскім паветах.

Уражанняў вельмі многа. Каб неяк падагульніць, хачу сказаць, што праведзеныя размовы з таварышамі ў Ваяводскім камітэце партыі, Галоўным праўленні і ў Бельскім і Гайнаўскім паветах далі нам магчымасць дайсці да вываду, што БГКТ вядзе карысную выхаваўчую і асветную працу сярод беларускай нацыянальнасці ў Польшчы. Культурна-асветная праца БГКТ нацыянальная ў форме а сацыялістычная па сваім зместу спрыяе ў сацыялістычным выхоўванні гэтай часткі грамадскасці, дапамагае ўключаць беларускую грамадскасць у плынь сацыялістычнага будаўніцтва ў Польшчы, спрыяе сацыялістычнай інтэграцыі грамадства Беласточчыны.

**— Што яшчэ хацелі б Вы сказаць нашым чытачам?**

— Мне хочацца сказаць, што таварышы, якія нас акружалі, з ВК, ВРН і ў паветах, адказвалі на ўсе нашы пытанні і стараліся магчыма многа паказаць. Наша дэлегацыя насычана ўражаннямі, мы змаглі многа ўбачыць. У заключэнні хачу падзякаваць рабочым Беласточчыны за тое, што яны карыснай і змястоўнай працай умацоўваюць вузы дружбы між нашымі народамі і перадаць ім самыя добрыя пажаданні ў пабудове сацыялізма. Хачу таксама выказаць падзяку за сустрэчы ў БГКТ і ТППР, у Гайнаўцы, Бельску, Сувалках і Ломжы, за душэўны і цёплы прыём.

**— Дзякуем за размову.**

**Інтэрв'ю вёў А. Карпюк**



**на сустрэчы ў ГП БГКТ. Сядзяць (справа налева): В. Авер — кіраўнік Аддзела прапаганды ВК ПАРП у Беластоку, М. Сасноўскі — намеснік старшыні Абласнога Выканаўчага камітэта Савета дэпутатаў працоўных у Гродна, А. Ульяновіч — сакратар Абласнога камітэта КПБ у Гродна, Я. Зенюк — сакратар ГП БГКТ, М. Хмялеўскі — старшыня ГП БГКТ, І. Ласмінскі — кіраўнік Аддзела Абласнога камітэта КПБ у Гродна, Н. Папова — сакратар Раённага камітэта КПБ у Лідзе, Ул. Канстанчук — кіраўнік Адміністрацыйнага аддзела ВК ПАРП у Беластоку і Е. Кошэль — сакратар Прэзідыума ВРН.**

**Фота Цаф — Сянько**

Пачатак на стар. 1

# Школьныя рэфлексіі

цэнтральнай, якая каардынуе цэлы выхаваўчы працэс.

Да выхаваўчага працэсу неабходна ўцягваць бацькоў. Гэта вельмі добра, што бацькі актыўна ўдзельнічаюць у гаспадарчых справах школы, але трэба рабіць усё, каб рабіць іх адказнымі за выхаванне сацыялістычнага грамадства. Сучасная школа дык павінна быць і сучаснае супрацоўніцтва з бацькамі. «Вывядоўкі», якія вядуцца на заканчэнне кожнай чвэрці, гэта ўстарэлая форма і не дае пажаданых выхаваўчых вынікаў. Па-мойму, справа тут павінна ізноў выглядаць не так, што каб не пабольшыць працу настаўніка, але каб частку працы пераказаць бацькам.

На другі год у тым самым класе ў школах Гайнаўшчыны астаецца 8—14,6% вучняў. Але здараюцца класы, у якіх не пераходзіць у наступны клас 30% вучняў. Гаварыў я з настаўнікамі і выхавацелямі гэтых класаў, якія віну ўскладвалі на вельмі дрэнны дабор вучняў. Ясна, што вучні кепскія, але ў чым прычына, што яны дрэнныя? На тэтае пытанне часцей за ўсё адказу няма. А вядома, што прычыны могуць быць розныя.

Думаю, што вышэй паказаныя факты павінны быць прадметам клопатаў кіраўніцтваў школ, педсаветаў, але таксама прадметам каардынацыі і намаганняў асветнай адміністрацыі.

**А. Лабановіч**

**Уваходзяць і выходзяць**

# Гайнаўскі рынак працы

Дзверы кіраўніка аддзела пасрэдніцтва працы з'яўляюцца найбольш папулярнымі дзвярыма спасярод дзесяткаў іншых дзвярэй розных аддзелаў немалой Гайнаўскай павятовай рады. За адзін дзень прыходзіць пад гэтыя дзверы ў сярэднім каля пяцідзесяці асоб, часамі і больш ста. І калі ўсе аддзелы так ці іначай чуюцца гаспадарамі людскіх лёсаў, дык аддзел пасрэдніцтва працы хіба перш за ўсё. Гэта аддзел не толькі найбольш папулярны, але і найбольш нервовы, калі так можна сказаць.

ХЛОПЕЦ З ЧАРОМХІ (да мяне): — Вы таксама шукаеце працу? Так? (я хацеў запярэчыць, але ён далей гаворыць). Вам дадуць працу з месца, бо вы мужчына...

Так пачалася мая гультаяватая гутарка пад дзвярыма з патрабуючымі гэтых дзвярэй.

ХЛОПЕЦ З ЧАРОМХІ (усё да мяне): — ...Жонцы маёй кажа такі адзін у грамадскай радзе ў Чаромсе, што ёй непатрэбна праца. А я кажу яму: ах, ты!.. І мы пасварыліся. А ён кажа: пачакай, яшчэ прыдзеш да мяне і папросіш ласкі! Ну, думаю, бяда. Але, думаю, нечаканне тваё, каб я прасіў цябе. І, што думаеце: я ў камітэт!

ГАЙНАВЯНІН-ЭЛЕКТРЫК (да мяне): — Вы мо электрык? (і не чакаючы). Я іду працаваць у рамонтную тэлевізараў, там патрэбны электрыкі яшчэ...

БУДУЧЫ ТАРТАЧНІК, стараваты, гледзячы на дзверы: — Я, панове, толькі на хвілінку: зайду і выйду. Я ж маю запатрабаванне з тартаку, вазьму толькі фармальнае накіраванне туды.

Будучы работнік тартака гаворыць «панове», але гэта датычыць дзяўчат, пяці ці дзесяці дзяўчат і адной пажылой жанчыны. Яны не гавораць, маўчаць. Маўчаць аб тым, што мужчыны шчаслівыя, яны заўсёды толькі ўваходзяць і выходзяць, ветліва развітваючыся, як людзі, у якіх усё ў парадку. А, вось дзяўчына, як увайшла, дык ужо з сорак мінут не выходзіць з-за дзвярэй...

Хлопец з Чаромхі даўно выйшаў і пайшоў, хіба яшчэ раз у «камітэт». Выйшаў і гайнавянін-электрык, маргнуўшы да мяне вокам, як бы хацеў сказаць: што, не падабаецца праца электрыка?! І будучы тартачнік паспеў праспяваць нам усім «довідзэня», разоў тры. Мужчыны ўваходзілі і выходзілі. Зрэшты, было іх усяго некалькіх у запоўненым жанчынамі (дзяўчатамі?) калідоры.

Увайшоў за дзверы і я. Кіраўнік:

— Вы куды хочаце пастуліць на працу?

Не, такога запытання не было. Але яно было б. Бо паслухайце: на цэлы Гайнаўскі павет шукае працы мо трох, мо пяцёх, ну, не больш, чым васьмёх мужчын. Ды, якое там шуканне: перабіраюць у месцах працы, як гандляры ў таварах на чорным рынку. Не так даўно было горш, выязджалі. Шукалі заробкаў на Слёнску. (Вісіць у калідоры вялікая аб'ява, дзве аб'явы, аб магчымасцях грашавітага жыцця ў Катавіччыне. Хто іх цяпер чытае...)

Кіраўнік, добры чалавек. Ён не хоча смуціць мяне, што няма працы жанчынам: жонкам, дзяўчатам, разведзеным, пасвараным, самастойным і т.д. Раз я запытаў, пытаю, хачу ведаць, дык калі ласка: працы шукае каля паўтысячы жанчын, напраўду шукае. З паўсотні мае сярэднюю адукацыю, нават спецыялістычную, напрыклад, выпускніцы Эканамічнага тэхнікума.

Крыху філасофіі. У паветах без прамысловасці шмат менш жанчын шукае працы. У Гайнаўцы муж працуе і жонка хоча працаваць. Людзі выраіліся з гаспадарак і ўюць сабе новае жыццё ў прамысловым горадзе з не абы-якой будучынёю. Вырай за выраем. У яловапрамысловым Бельску праца жанчынам гэта ўсяго праблема можа сотні асоб — здаецца, не больш, таксама горад, не.

У Гайнаўцы пабудуюць фабрыку пліт са стружак. Перш за ўсё будуць прымаць туды жанчын. Сакратар павятовага камітэта, якога напаткаў на вуліцы, лічыць, што трэба будзе ляпей дапільноўваць, каб жаночая праца не трапляла ў мужчынскія рукі, якіх і так ужо замала. Мужчыны, дзіўныя стварэнні: памагчы жонцы гатаваць абед не кваляцца. А гэта ж таксама жаночая праца.

Выязджаючы з Гайнаўкі, я не ехаў з пачуццём адкрытай Амерыкі: рост прамысловасці апіраецца перш за ўсё на мужчынскай працоўнай сіле, але мужчыны маюць адпаведную прывычку жаніцца з жанчынамі, а сям'я хоча ўсё больш грошай. Дзеці. Праблема працы жанчынам — гэта праблема на цэлым свеце.

**Кастусь Янкоўскі**

# Сям'я вайсковых



**Якім Вярба**



**Мікалай Вярба.**



**Сцяпан Вярба.**



**Пётр Вярба.**

Для сям'і Якіма Вярбы, які зараз жыве ў Бельску Падляшскім, дзень 12 кастрычніка з'яўляецца амаль што сямейным святам. Гэта ж сям'я вайсковых. Двух сыноў Якіма Вярбы з'яўляюцца афіцэрамі, трэці сын падафіцэрам-механікам. А дачка таксама спадабала сабе вайскоўца і выйшла за яго замуж.

— Скажыце, таварыш Вярба, — пытаю яго, — як гэта сталася, што ўсе вашы дзеці звязалі свой лёс з войскам.

— Да вайны, — адказаў ён мне, — быў я батраком. Пасвіў кароў у багатых гаспадароў і працаваў абы за што ў паноў. А калі паклікалі мяне ў армію, дык кожны афіцэр... ды што афіцэр! — кожны капраль адносіўся да мяне, як да сабакі. Для іх я быў вясковым хамам. І вось шчаслівa дачакаўся народнай улады. Тое, пра што я не марыў, сталася адкрытым для маіх дзяцей. Я іх пастаянна вучыў, каб кахалі сваю зямлю, каб баранілі роднага краю, каб стаялі за народную ўладу. Я ж сам за яе змагаўся. Па-рознаму змагаўся. Найперш у Кошках, дзе прайшло маё юнацтва і маладосць. Была там шматлікая арганізацыя падпольнага камуністычнага руху...

Словы задушыў востры, сухі кашаль.

— Гэта з вайны, — быццам на апраўданне сказаў Якім Вярба. — Узялі мяне ў армію ў жніўні 1939 года. Гэта другі раз. Стаялі мы за горадам Млавай. Тады Млава была прыгранічным горадам. Недалёка на поўнач знаходзілася Усходняя Прусія. Ад нашых казармаў да мяжы было ўсяго 5—6 кіламетраў. Небяспечная выпала мне служба. Некалькі нашых патрулёў, якіх камандзіры высылалі на мяжу, яшчэ да часу ваенных дзеянняў прапала без следу. Я служыў у 80 палку пяхоты. 31 жніўня 1939 года аб'явілі нам баявую трывогу. Мы заляглі ў траншэі, занялі абарону ў бетонных дотах, якіх пабудова была не зусім яшчэ закончана. З нашага ўзгорка добра было відаць нямецкі бок. У дзень над намі паявіліся іхнія самалёты. Пасля ўбачылі мы, як немцы возяць войска. Машына за машынай. Мы чакалі. Была ноч. Але ніхто не спаў. На світанні распачалася тут страляніна. Мы ўсё яшчэ чакалі. Гэтая ноч, як жыццё, як век цэлы. Хто маліўся, хто плакаў, хто ляскатаў зубамі ад холаду і страху. Было нас мала — 160 чалавек. Урэшце немцы пайшлі ў

Наш Каляндар

# У імя братоў па зброі



Помнік-музей савецка-польскай баявой садружнасці.

Сяло Леніна, што на Магілёўшчыне, вядома ўсяму свету.

...Світанне. 12 кастрычніка 1943 года. Па ўсім Усходнім фронце часці Савецкай Арміі вядуць жорсткія ўпартыя баі з гітлераўскімі захопнікамі. Пад Леніна размясцілася 12 тысяч польскіх салдат. Іх думкі — аб роднай краіне на Віслe. Гэта воіны Першай польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі.

Салдаты рыхтуюцца да бою, які распачне новую старонку ў летапісу польска-савецкага братэрства.

Пачынаецца жорсткі бой. Дарэмна контратакуюць гітлераўцы. Яны сустракаюць магутны вал польскага наступлення. На полі бою гіне падкошаны варожай куляй камандзір першага батальёна маёр Браніслаў Ляховіч. Далей вядзе батальён варшаўскі камуніст Уладзіслаў Базінскі... Смяртэльна паранены капітан Уладзіслаў Высоцкі. Гераічна памірае аўтаматчыца Анеля Кшывань... І вось перамога! Першая перамога палякаў на Усходнім фронце поплеч з Савецкай Арміяй.

Гэты дзень, калі Першая пяхотная дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі ўпершыню правяла свой пераможны бой пад сялом, якое носіць імя вялікага Леніна, стаў днём нараджэння Войска Польскага. Польскі салдат пачаў бітву за новую, сацыялістычную Польшчу. Беларускае сяло Леніна стала пачатковай вехай на слаўным баявым шляху, пройдзеным польскімі войскамі побач з Савецкай Арміяй за вызваленне сваёй радзімы.

...15 кастрычніка 1968 года. Раённы цэнтр Горкі ў святочным убранні. На фасадах будынкаў — дзяржаўныя флагі Польскай Народнай Рэспублікі, Савецкага Саюза і Беларускай ССР. Цэнтральная плошча сяла Леніна ўрачыста ўбрана. На легендарнай вышыні 215,5, якая паліта крывёю савецкіх і польскіх воінаў, узвышаецца манументальнае збудаванне — мемарыяльны комплекс у гонар баявога братэрства Савецкай Арміі і Войска Польскага.

На плошчы сабраліся працаўнікі мясцовых калгасаў і саўгасаў, рабочыя і служачыя прадпрыемстваў Магілёва і Горак, воіны Савецкай Арміі. Сярод удзельнікаў мітынгу — вялікая група польскіх ветэранаў барацьбы супраць фашызму. Сюды прыбылі кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі, дэлегацыя Польскай Народнай Рэспублікі і Міністэрства Абароны СССР.

Пасля ўрачыстага мітынгу пачынаецца агляд музея-помніка. Ля ўваходу ўзвышаецца велізарная скульптура. Рукі савецкага і польскага салдат сціскаюць зброю. Над імі сцяг. Лаканічны надпіс: «СССР—Польшча 1943». У музеі сабраны сотні рэліквій баявой савецка-польскай садружнасці. Тут дакументы, фатаграфіі, схемы, табліцы. Яны адлюстроўваюць сумесную барацьбу двух братніх народаў супраць агульнага ворага, паказваюць баявую садружнасць Савецкай Арміі і Войска Польскага, якія ўваходзяць у брацкую сям'ю краін Варшаўскага дагавору.

Першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў пераразае стужку перад адкрыццём музея. У цэнтры — сакратар ЦК ПАРП М. Мочар.

# НЕ ЗАБЫВАЙЦЕ АБ ПРЫРОДЗЕ

Такі зварот можна і трэба накіраваць да ўсіх людзей. Аднак пераважна звяртаемся да школьнай моладзі, настаўнікаў, любіцеляў прыроды.

Распачаўся новы школьны год. Педагагічныя саветы, класныя выхавацелі апрацоўваюць, каардынуюць выхаваўчыя і дыдактычныя планы школ. У іх склад войдуць планы паасобных дзіцячых і маладзёжных арганізацый. Хай не забракне тут планаў дзейнасці школьнага кола Лігі аховы прыроды, а калі такога няма, тэматыкі звязанай з аховай прыроды.

Асабліва выхавацелі павінны памятаць, што чым хутчэйшая ўрбанізацыя і тэхнізацыя, тым мацней трэба ахоўваць прыроду. Для гэтага, каб яе мацней і лепш ахоўваць, працу трэба пачынаць у школе.

Планаванне працы кола ЛьОП ці ахоўніцкай працы ў рамках іншых арганізацый вельмі простае, але адначасова выступае тут багацце тэм. Адной з навейшых форм з'яўляюцца «Зялёныя патрулі». Асноўнае заданне патрулёў — ахова дрэваў, кветак і траўнікаў у гарадах. У некаторых выпадках можна дзецям прыдзяліць індывідуальна дрэўка да апекі пакінуўшы на ім таблічку з прозвішчам апекуна. Важнай, асабліва на вёсцы, магла б быць акцыя ў справе «домікаў» для сабак. Як жа ж часта гэтыя чатырохногія прыяцелі чалавека ўвязаныя начуюць пад даждкжом і ветрам, на марозе. Істотнай будзе падрыхтоўка патрулёў для дакармлянння зімой звярыны і птушак.

Зразумела, да працы ў галіне аховы прыроды трэба падабраць актыў, некалькіх вучняў, якія сапраўды цікавяцца прыродай. Прынясе гэта карысць дзейнасці школы, а вучням задавальненне. (ак)




### Татар

Узяць кавалак ялавічыны без касцей (найлепш палянддвіцу), пасячы або прапусціць праз мясарубку. Прыправіць дробна пакрышанай цыбуляй, сырым жаўтком, натуральным алеем, перцам, соллю, (для некаторых любіцелей — кіслы агурэц нарэзаны кубікамі). Усё дакладна перамяшаць, пакласці на талерку і пасыпаць зверху дробна пакрышанай цыбуляй.

### Флякі

Кіндзюк добра пачысціць, парэзаць на кавалкі і варыць у падсоленай вадзе. Калі ён ужо мягкі, вымаем з вады і рэжам на палоскі як лапшу. У іншай каструлі рыхтуем вывaрку з ялавічыны з косткай. Калі вываркa гатова, вымаем мяса, а ў вываркy кладзем флячкі, моркву, пятрушку, сельдэрэй (усё пацертае на церцы для агародніны) і перац (духмяны гарошак). Усё разам варым. У канцы варкі прыпраўляем засмажкай з мукі і масла, молатым горкім перцам, маяранам, папрыкай, імбірам.

Прапорцыя: 2 кг. кіндзюка, 2—3 морквы, 1—2 карэнні пятрушкі, 1 сельдэрэй, рэшта прыпраў — да смаку. **(ліў)**

ЛЕКАР ПРЫРОДА

# ЕЖЦЕ ЧАСНОК

Багатая літаратура на тэму часнаку пацвярджае, што з'яўляецца ён кормам, які лечыць і прадухіляе многія хваробы і болі. Дапамагае часнок пры лячэнні заражаных дыхальных шляхоў і стваральнага канала, прадухіляе зацвярдзенню артэрыі, перамагае павышаны крывяны ціск, падтрымлівае сэрца, рэгулюе кровазварот, вяртае раўнавагу залозаў, не дапускае да паўставання расшырэння вен і камняў мачавога пузыра, пабуджае выдзяленне жоўці, палягчае страваванне, адхіляе сціск сасудаў, павялічвае апетыт, узмацняе цэлы арганізм, аблягчае фізіялагічнае напружанне, забівае рабакі, перамагае рэўматызм, бароніць перад інфектнымі хваробамі, а нават, паводле некаторых сцверджанняў, перад ракам.

Часнок, — гэта спажывецкая расліна вядомая ўжо ў старажытнасці. Егіпцяне прыдавалі часнаку амаль божую сілу, а фараон Хеапс загадаў прыдзяліць порцыю часнаку рабочым, якія будавалі Вялікую піраміду, каб дадаць ім сіл і забяспечыць перад эпідэміяй. Грэкі таксама елі многа часнаку, а Гіпакратэс, бацька медыцыны, першы абвясціў пахвалу часнаку. Арабы лічылі часнок проціяддзем і сродкам пабуджаючым палавыя органы. Многія практыкі, а таксама і навуковыя работнікі сцвярджаюць, што без часнаку нельга абысціся ніводнага дня.

У сувязі з так шырокім уздзеяннем часнаку на наш арганізм не баймася дадаваць яго да штодзённых салатак і іншых страў. Добра з'есці адзін-два зубочкі часнаку пры кожным харчаванні. Лекары сцвярджаюць, што свежы чоснок дае лепшыя вынікі.

Аднак астаецца справа антытаварыскага паху, які выдзяляе часнок.

Лекары прапануюць наступны практычны выхад з гэтага становішча: паласкаць рот вадою з дадаткам хлараміны або кропель з мяты, чысціць зубы хларафілевымі прэпаратамі, грызці яблыкі, зялёную пятрушку, сыры боб, некалькі зярнят анісу або кавы.

Адным словам ежце часнок! (ак)

Чвэрць стагоддзя назад




### НАПЯРЭДАДНІ

Мы ляжым з Мельнікавым, прыціскаючы аўтаматы да пляча, праводзім мушкай кожную фашысцкую машыну. Ад дарогі нас аддзяляюць усяго толькі якія-небудзь дзесяткі крокаў. Напэўна, ніхто не сумняваўся, што гітлераўцы выехалі лавіць нас: нездарма над лесам кружыў самалёт пасля нашага прызямлення.

Мне ўспомніўся такі ж самы пагодлівы дзень пад Смаленскам, у вёсцы Сухадол. Нас, разведчыкаў спецгрупы «Чайка», якая выконвала заданне на акупіраванай тэрыторыі пад Мінскам, выклікалі да асобага распараджэння.

З дому, у якім мы пабывалі на гутарцы ў маёра Стручкова, выйшаў Генка. Па твары бачу, што ён засмучаны, значыць адмовілі, не хочуць пакінуць хлапчука ў разведцы. Цяжкім крокам падыходзіць да мяне.

— Не бяруць, — коратка кідае, адводзячы вочы ўбок, трываючы, каб не заплакаць ад роспачы.

Мяне і самога раптам разанула па сэрцы. Ён жа мне як родны: цэлы год у адной палатцы спалі.

Упершыню сустрэліся мы восенню 1943 года пад Мінскам. Пад вечар я выехаў на сваім Гнядым з лесу на сустрэчу з сувязным. Яшчэ завідна прыехаў у вёску Ляхавічы. Трэба было пачакаць, пакуль сцямнее, каб ехаць далей, бо дарога праглядвалася з варожага гарнізона, што размяшчаўся ў Станькаве. Толькі я злез з каня, як мяне апанавалі хлапчукі.

— Дзядзя, адкуль у вас такі новенькі аўтамат?

— Гэта мусіць наш новы. Ці не з самалёта скінулі, калі на тым тыдні ноччу прылятaлі? — умяшаўся бялявы, гадоў трынаццаці.

— Ого! — націснуў я пальцам, як кнопку, кірпаты яго нос. — Адкуль гэта ты такі здагадлівы?

— Мы з Юзікам абодва адсюль, з гэтай вёскі. А вось Генка, з Мінска. Там яго маці павесілі, а ён уцёк. У цёткі Анэты жыве. Вунь у той хаце.

Генка таксама з цікавасцю разглядаў новенькі аўтамат, гладзіў па шыі Гнядога, але нічога не гаварыў, нічога не пытаўся. Толькі калі я выйшаў за вёску, ведучы каня за повад, Генка дагнаў мяне.

— Вазьміце мяне ў партызаны, — рашуча сказаў ён. — Усё буду рабіць, што толькі загадаюць. У разведку магу хадзіць — мне ж гэта лягчэй, чым даросламу, і рызыкі ніякай: родных у мяне нікога не засталося. Вазьміце, дзядзечка, не глядзіце, што я такі шчуплы... Мне ўжо чатырнаццаць гадоў. Я цяпер нічога не баюся. За маці помсціць хачу, — глуха прамовіў ён апошнія словы.

Вельмі мне стала яго шкада. Вярнуўшыся ў лагер, я некалькі разоў напамінаў пра Генку камандзіру Міхаілу Ільічу Мінакову і разведчыкам. Угаворваў узяць хлопчыка да сябе: на сувязь можна будзе паслаць... Па Генку мы паехалі ўдвaіх з Мікалаем Чарновым. Каб абрадаваць хлопца, мы нават прывялі яму каня пад сядлом.

Спачатку Генка аж не паверыў, што па яго прыехалі. А як сеў у сядло, дык ажно вочы заззялі.

— Мне трэба туды, за гумно, — паказаў ён за вёску. — Там я нешта прыхаваў.

Калі пад'ехалі да гумна, хлапчук споўз з каня, трымаючыся аберуч за яго шыю. Патаптаўся крыху, прыглядаючыся да нейкіх аднаму яму вядомых прыкмет на зямлі, а потым учапіўся за траву і адвярнуў ладную дзярніну.

У тайніку ляжала вінтоўка, па-таспадарску загорнутая ў анучы, змазаная.

— Ты дзе яе ўзяў? — спытаў Мікалай.

— Вымяняў на гармонік, — ажыўлена сказаў хлопчык. — І патронаў во колькі! Сто семнаццаць штук!.

— Вазьмі на плячо вінтоўку, паглядзім, як яна табе... Э-э, ды надта ж доўгая, да пят дастае! На вось табе, таварыш Юркевіч, зброю такую, як і належыць разведчыку. Трымай у чыстаце, у парадку — не падвядзе.

Генка асцярожна ўзяў новенькі ППШ, потым падняў на нас здзіўленыя вочы і спытаўся:

— Адкуль вы маё прозвішча ведаеце, я ж здаецца, не гаварыў?

— Разведка! — Мікалай многазначна падняў уверх указальны палец. — А яшчэ вось што: скідай, браток, з сябе ўсё цывільнае. Вось табе поўная экіпіроўка.

Мы далі Генку камплект абмундзіравання, боты. Падабралі ўсё як след, так што выглядаў хлопец у форме, як сапраўдны баец.

Год прабыў ён у нашай разведгрупе

# ТРЫБУНА чытачоў

## У КРЫВЯЦІЧАХ

Праўленне гуртка БГКТ у Крывяцічах, пераканаўшыся, што не ўдасца арганізаваць уласнага драмгуртка, пачало шукаць іншых дарог для развіцця культурнай дзейнасці. Павятовы інструктар БГКТ у Бельску Падляшскім Іван Шурбак даў нам фотаздымкі з жыцця Беларусі, якія мы выкарысталі ў сценгазетку. Атрымалі крыху савецкіх журналаў да мясцовай святліцы. Пры актыўнай дапамозе актывістаў гуртка БГКТ Валі Журавель, Ніны Скарэўскай, Веры Самоцюк і іншых мы пачалі арганізаваць патанцоўкі. Добра супрацоўнічае з намі кіраўнік клуба Надзя Самоцюк, якая дбае аб парадак ў святліцы.

* * *

Аднавіў сваю дзейнасць гурток ЛьЗС у Крывяцічах. Мае ён спартыўную пляцоўку, а таксама розныя прылады. Налічвае 21 члена. ЛьЗС-аўцы амаль кожны дзень трэніруюцца. Пры добрай арганізацыі заняткаў можна спадзявацца добрых вынікаў у футболе.

* * *

Грамадзяне сяла Крывяцічы закончылі сеяць жыта. Многія з іх вымяньвалі жыта ў ГС-е ў Орлі на лепшыя сарты. У нашай вёсцы заканчваецца ўжо таксама капанне бульбы. Добра выпаў другі пакос сена на меліяраваных і засеяных новай травой лугах.

**Ваня Кірызюк**
**Крывяцічы**

## ВЫДАТНІКІ

Маладыя людзі: Мікалай Астапчук з Кавелы і Іван Зінчук з Волькі Тэрэхоўскай на Гайнаўшчыне здалі на выдатна дзяржаўныя экзамены ў калектывах сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Атрыманыя сельскагаспадарчыя веды выкарыстоўваюць пры апрацоўцы зямлі на сваіх гаспадарках.

Мікалай Астапчук мае 8 га зямельных угоддзяў. На кожны гектар дае 135 кг NPK і ўраджай зерневых атрымоўвае па 20 цэнтнераў. Кожны год кантрактуе і здае дзяржаве па восем адкормленых свіней. Кантрактуе ён таксама збожжа і азімы рапак.

Яму цяпер 24 гады. Нягледзячы на тое, што параўнальна даволі малады, аднак у вёсцы карыстаецца вялікім аўтарытэтам і таму аднавяскоўцы выбралі яго солтысам, а таксама з вялікім задавальненнем падчас выбараў галасавалі на яго кандыдатуру ў Павятовую раду нарадовую.

Іван Зінчук гаспадарыць на 12 га. Ён на пясчаных малаўраджайных землях атрымоўвае даволі добрыя вынікі. У сярэднім з аднаго га зямлі атрымоўвае 17 цэнтнераў збожжа. А гэта таму, што выкарыстоўвае сучасную агратэхніку. Ён з'яўляецца дыспазітарам машын у сельскагаспадарчым гуртку ў Ставішчах. Сельскагаспадарчая тэхніка, якая знаходзіцца ў яго ведамстве, добра, рацыянальна выкарыстоўваецца. А гэта адна з найважнейшых спраў гуртка.

**Віталіс Назарук**
**Гайнаўка**

## ВЫСТАЎКА РАЗЬБЫ Ў ДРЭВЕ

Ад 6 верасня г.г. адкрыта ў клубнай зале Дома Культуры «Ляснік» у Гайнаўцы выстаўка разьбы ў дрэве. Выстаўка складаецца з некалькі дзесяткаў прац. Працы выкананы на сёлеташнім пленеры разьбы, які адбыўся ў Гайнаўцы. Ц. Я.

## ІНІЦЫЯТЫЎНЫ БІБЛІЯТЭКАР

Грамадская бібліятэка ў Даманове налічвае зараз 3400 тамоў кніжак і 209 пастаянных чытачоў. У пяці бібліятэчных пунктах чытачоў зараз 232. Колькасць чытачоў з кожным годам павялічваецца. Пры бібліятэцы арганізаваўся гурток «Прыгожага чытання», які кожны другі тыдзень арганізуе вечары баек, голаснага чытання, а таксама літаратурныя вечары спалучаныя з выстаўкай кніжак. Бібліятэкарам працуе Чэслаў Тураўскі. Ён менавіта і з'яўляецца ініцыятарам вышэй успомненых мерапрыемстваў. Варта з такой ініцыятывы скарыстаць і ў іншых бібліятэках.

**Веслаў Фалькоўскі**
**Бельск Падляшскі**




**Дарагое Сэрцайка!**

Маю старэйшую сястру, і ў нас у хаце часта бывае многа моладзі. Мне толькі 16 год. Упершыню я пакахала хлопца. Але ён старэйшы і то многа. Генэк прыходзіць да нас дахаты, калі ў нас ёсць дзяўчаты — сяброўкі маёй сястры. Ён мне так падабаецца, што я ў дзень і ўночы думаю аб ім. Аднак ён мяне не заўважае. А калі штосьці адазвецца, я чырванею так, што адразу выбягаю з пакоя, каб ніхто гэтага не заўважыў. Аднак заўсёды падглядаю, як ён адносіцца да дзяўчат, ці мо не пакахаў каторую.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць, як яму аб гэтым сказаць. (Генэк мае 28 год.

**Марыся**
**з Гайнаўшчыны**

Марыся! Не пераймайся. Гэта пройдзе і будзеш толькі смяяцца з сябе. А каб гэта стала якнайхутчэй, раю табе інакш паступаць чым дагэтуль, гэта значыць: не падглядаць Генку і не хадзіць за ім следам, а проста старацца, каб з ім як найменш сустракацца, а калі ёсць магчымасць, дык каб увогуле не бачыцца з Генкам. Тады і хутчэй пяройдуць твае пачуцці. Старайся замест думаць, больш працаваць, памагаць бацькам, а калі маеш вольны час, дык пайдзі ў бібліятэку і вазьмі добрую кніжку.

**Сэрцайка**

## У ГРАМАДЗЕ КЛЯШЧЭЛІ

Партыйная арганізацыя ў грамадзе Кляшчэлі (Гайнаўскі павет) налічвае 216 членаў і кандыдатаў партыі. Займае яна першае месца па колькасці членаў у павеце. На партыйных сходах вырашаюцца найпільнейшыя і найважнейшыя справы паасобных вёсак. А да такіх належаць, м. інш., справа ліквідацыі цераспалосіцы ў вёсках: Грузцы, Дабрывадзе, Рэпчыцах.

У грамадзе амаль штогод выступае надвыжка сена і таму неабходна частку сенажацяў замяніць на пашы. Па ініцыятыве партыйнай арганізацыі ў 100 працэнтах адноўлена насенне жыта ў вёсках Сакі, Залешаны, Сухавольцы і Жукі. Запраўлена 70 прац. зерня.

У 1968 годзе пад паплёны прызначана 452 га зямлі (найбольш у вёсках: Дашы, Сухавольцы і Жукі). Усё больш сеецца кукурузы на кішонкі. Добра рэалізуюцца планы кантрактацыі збожжа.

Апошнім часам загаспадаравана зялёныя ўгоддзі ў даліне рэчкі Белая ў вёсках Залешаны і Сакі. Астаецца загаспадараваць такія ж зямельныя ўгоддзі ў даліне ракі Нурэц.

**Янцал**

## АБ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ

У Гайнаўскім павеце ў грамадах: Клейнікі, Нарва, Трасцянка, Чаромуха і Кляшчэлі ёсць найбольшыя магчымасці развіцця жывёлагадоўлі. Там знаходзяцца ўсе меліярацыйныя работы. У гэтых грамадах ёсць дастатковая колькасць лугоў і паш.

На развіццё жывёлагадоўлі вялікі ўплыў мае недастатковая колькасць злеўняў малака. Калі няма магчымасці прадаваць малако дзяржаве, тады там і сяляне менш зацікаўлены гадоўляй кароў і павышэннем колькасці малака.

У гайнаўскіх вёсках 79 працэнтаў жыхароў утрымліваецца з гаспадаркі.

Найпільнейшымі справамі, якія датычаць развіцця жывёлагадоўлі, з'яўляюцца: неабходнасць палепшыць гаспадараванне на пашах, папулярызацыя кішонак на пашу, а таксама патрэба пабудовы новых тыповых гаспадарчых будынкаў.

**Я. Цал.**

## ДОБРЫ РАБОТНІК



Марыя Мішчук адносіцца да перадавых рабочых у Інвалідскай спулдзельні працы «Постэмп» у Гайнаўцы. Працуе яна там пакавачкай адзежы.

**Фота Цаф — Сянько**

## МОЛАДЗЬ ГАЙНАЎШЧЫНЫ...

...шмат увагі прысвяціла ў гэтым годзе справам грамадскіх чынаў. У многіх вёсках моладзь арганізавала дарожныя чыны, спартыўныя гульні, садзіла лес, абсаджвала дарогі дрэўцамі, будавала спартыўныя пляцоўкі. 2700 хлопцаў і дзяўчат належыць да Саюза вясковай моладзі. Гурткі ЗМВ актыўна ўключаліся ў рэалізацыю акцый «Вясна чынаў» і «Кожны колас на вагу золата».

У апошняй акцыі брала ўдзел 907 членаў, найбольш з вёсак: Нараўка, Плянта, Старое Беразова і ПОМ Нарва.

Актыўна працуе Павятовая рада сельскагаспадарчай падрыхтоўкі пры Павятовым праўленні ЗМВ у Гайнаўцы. Зараз у павеце заложана 200 даследчых калектываў. Такім чынам вясковая моладзь прапагуе і ажыццяўляе прагрэс у сельскай гаспадарцы.

**Янка Цялушэцкі**

## ПАШТОЎКА З САКОЛКІ




**Мода мужчынская, жаночая і кавярня «Мілая».**
**Фота Цаф — Сянько**

«Чайка». Смелы, разважлівы хлапец, на адказныя заданні не раз хадзіў. Прывыклі мы да яго, а ён да нас. У мяне ж з ім склаліся асаблівыя адносіны — як у братоў родных.

Праўда, у прысутнасці іншых ён стараўся звяртацца да мяне афіцыйна, як і належыць звяртацца да начальніка штаба. А калі заставаліся ўдвух, то, часам, гаварыў мне «ты». Нам абодвум было гэта прыемна.

І вось настаў час развітання. Як Генка ні прасіўся, каб яго пакінулі ў арміі, паслалі на фронт, маёр яму гэтага не дазволіў. І правільна: хіба дзіцячая гэта справа! І ўсё ж Генка затаіў крыўду да маёра Стручкова.

— Сядзіць насуплены — нічым яго не кранеш! — гаварыў са злосцю.

— Ды не можа ён, зразумей ты! У цябе ж узрост не прызыўны, — суцяшаю яго.

— Хіба год назад я старэйшы быў? А ты не пабаяўся, узяў. Скажы: я замінаў вам, не выконваў загадаў?

Я маўчаў. Хай, думаю, выкажацца хлапец, лягчэй стане. Маёр праўду каіжа — няхай ідзе вучыцца. Вайну і без яго кончаць.

На вуліцы прыпынілася грузавая машына — каля таго ж дома, дзе быў маёр Стручкоў. А неўзабаве мяне паклікалі.

— Таварыш Рыдзеўскі, — сказаў, падышоўшы, маёр Стручкоў, — вас выклікае палкоўнік.

Мы абняліся з Генкам. Відаць, ад таго, што маёр быў побач, мы нічога не сказалі адзін аднаму. Так і развіталіся моўчкі.

У пакоі за сталом сядзелі незнаёмы палкоўнік, два маёры, а з краю воддаль — наш капітан Крылатых з групы «Чайка». Перад палкоўнікам на стале ляжаў стос палявых карт.

— Прашу садзіцца, — прапанаваў мне палкоўнік.

Я сеў на табурэт, што стаяў насупраць стала.

— Ну, як адпачываеце, таварыш Рыдзеўскі?

— Дзякую, таварыш палкоўнік, ужо трэці дзень без справы.

— Дык вось што, — перайшоў палкоўнік на афіцыйны тон, — пра нашу размову ніхто не павінен ведаць. Разумееце — ніколі, ніхто, нават ваша сям'я, якая некалі будзе. Размова пойдзе пра спецыяльнае, вельмі сакрэтнае даручэнне. Перш чым раскрыць яго, напомню, што выконваць яго трэба толькі добраахвотна. Вы можаце згадзіцца або адмовіцца. Гэта справа вашага сумлення. Але скажу вам шчыра, што мы зацікаўлены, каб вы згадзіліся.

У пакоі стала ціха. Было чуваць, як б'ецца на шыбіне муха.

— Мы збіраемся закінуць вас у глыбокі тыл ворага, у Германію. Вы ведаеце нямецкую мову, а гэта вельмі важна.

— Аднаго мяне? — спытаў я.

— З групай.

(Працяг будзе)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**
„Ludzie w hotelu" (USA), 14—15. „Dziennik młodego małżeństwa" (fiński), 16—17. „7 razy kobieta" (włoski), 18—19.

**Дубіны**
„Umarli milczą" I i II s. (NRD), 18—19.

**Нараўка**
„Spotkałem nawet szczęśliwych cyganów" (jugosł.), „Tarahumara" (meksykański), 15—19.

**Нарва**
„Salto" (polski), „Testament Agi" (węgierski), 15—19.

**Чыжы**
„Testament gangstera" (USA), „Tak się zaczęło" (NRD), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**
„Statek z dynamitem" (rumuński), „Światło na twarzy" (węgierski), 15—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Браньск**
„Ballada o dziewczynie" (wietnamski), 14—15. „Miłość i jazz" (szwedzki), 16—17. „Brat dr Homera" (jugosł.), 18—19.

**Боцькі**
„Na Rusi" (radz.), „Miłość blondynki" (czeski), 15—19.

**Орля**
„Dr Crippen przed sądem" (angielski), „Czarny mustang" (USA), 15—19.

**Райск**
„Susza" (brazylijski), „Spieniony nurt" (rumuński), 15—19.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Na szlakach wojennych przygód" (czeski), „Grawitacja" (jugosłowiański), 14—17.

**Міхалова**
„Wojenka, wojenka" (polski), 14—15. „Jezioro starej sowy" (polski), 16—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Dziewczyna kłamie" (jugosł.), 14—15. „Miłość surowo wzbroniona" (węgierski), 16—17. „Człowiek z M-3" (polski), 18—19.

**Янаў**
„273 dni poniżej zera" (polski), 15—19.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), 14—15. „Każdemu swoje" (włoski), 16—17. „Ruchome piaski" (polski), 18—19.

**Мельнік**
„Skrytobójcy" (NRD), 14—15. „Nauczyciel z przedmieścia" (angl.), 16—17. „Molo" (polski), 18—19.

**Мілейчыцы**
„20 godzin" (węgierski), 14—15. „Gorące lato" (jugosł.), 16—17. „Biały pokój" (bułg.), 18—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**
„Ostatnie dni" (polski), „Panie inspektorze" (jugosł.), 15—19.

**Новы Двор**
„Rzeczypospolita babska" (polski), „Tajemnica szyfru" rumuński), 18—19.

**Ніва**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 6620

